# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№ 10 (197)
кастрычнік 2018

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## У НУМАРЫ:

### У Мінску адкрылі надмагільны помнік Леаніду Маракову

29 кастрычніка на Заходніх могілках Мінска адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Леаніду Маракову.

Працяг на старонцы 2.

### Толькі прымітыўныя людзі думаюць, што калі спаляць кніжку, то знішчаць напісанае

Рэдкі госць, сусветна вядомы беларускі мастак з Падляшша Лявон Тарасэвіч узяў удзел у адкрыцці мінскай выставы і знайшоў хвіліну, каб падзяліцца з "Бацькаўшчынай" уражаннямі ад свайго прыезду.

Працяг на старонцы 4.

### Жыццё з Бацькаўшчынай у сэрцы

Гутарка з актывістам Згуртавання беларусаў Канады Алесем Катом.

Працяг на старонцы 6.

### Мастак павінен здрадзіць свайму настаўніку

Куратар Андрэй Дурэйка, падзяліўся з "Бацькаўшчынай" думкамі пра месца нацыянальнага ў сучасным беларускім мастацтве.

Працяг на старонцы 5.




# ВЫЙШАЎ КАЛЯНДАР "НЕ МАЎЧЫ ПА-БЕЛАРУСКУ!" НА 2019 ГОД

Новы каляндар з папулярнай серыі "Не маўчы па-беларуску – 2019" ад кампаніі "Будзьма беларусамі!" ўжо ў крамах. Набыць яго або замовіць можна ўжо цяпер!

Такой цікавасці да календара, як сёлета, не чакалі нават самі стваральнікі! Нам пісалі лісты, цікавіліся ў сацыяльных сетках і на афлайнавых сустрэчах. І не дарма, бо новы каляндар будзе рэкордным па колькасці новых словаў і малюнкаў!

Гэтым разам каляндар складаецца з 40 невялікіх гісторый, збольшага пададзеных у форме "тыдняў". Дзякуючы такому падыходу каляндар атрымаўся максімальна разнастайным і цікавым, а таксама яшчэ зручнейшым для вывучэння беларускай мовы.

У якасці прыкладаў такіх "гісторый" можна прывесці беларускія назвы пальцаў, вайсковыя каманды, прафесіі, гукапераймaнні. Традыцыйна вялікае месца ў календары займаюць жывёлы. Дарэчы, большасць "жывёльных" скорагаворак для кожнага з месяцаў прыдумаў сам дызайнер Анатоль Лазар, які займаецца ўкладаннем календара. А мастачка Дар'я Мандзік таленавіта праілюстравала іх, як, зрэшты, і ўсе 365 дзён.

Варта адзначыць, што каляндар займеў добрую падтрымку з боку айчынных камерцыйных колаў. Генеральным партнёрам выдання стала вядомая сетка аўтамабільных запраўчных станцый "А-100", якая ўзяла чынны ўдзел у падрыхтоўцы выдання. Кампанія "Будзьма беларусамі!" дзякуе таксама крамам "Symbal.by" і "Мой модны кут", моладзеваму аб'яднанню "Фаланстэр".

Нагадаем, што папулярная серыя календароў "Не маўчы па-беларуску!" – гэта адзін з самых паспяховых і запатрабаваных беларускамоўных праектаў апошняга часу.

Каляндар "Не маўчы па-беларуску!" на 2019 год можна набыць у мінскіх кнігарнях, а таксама праз інтэрнэт-крамы knihi.by і symbal.by.

навіны

# У МІНСКУ АДКРЫЛІ НАДМАГІЛЬНЫ ПОМНІК ЛЕАНІДУ МАРАКОВУ

29 кастрычніка на Заходніх могілках Мінска адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Леаніду Маракову.

Ушанаваць памяць вядомага даследчыка сталінскага тэрору прыехалі пісьменнікі, грамадскія дзеячы, палітыкі, мастакі, святары.

На адкрыцці выступілі старшыня ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" Барыс Пятровіч, паэт і палітык Уладзімір Някляеў, пісьменнік Уладзімір Арлоў, палітык Вячаслаў Сіўчык і інш. Асвячэнне помніка і жалобны малебен выправіў айцец Леанід Акаловіч.

Сёлета быў абвешчаны збор ахвяраванняў на помнік, які вырабіў мінскі скульптар Ігар Засімовіч. Арганізацыю і правядзенне работ мантажу ўзяў на сябе ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў" з удзелам ЗБС "Бацькаўшчына".

29 кастрычніка 1937 года на працягу адной ночы ў мінскай турме НКВД расстралялі больш за 100 грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі. Сярод забітых быў і паэт Валеры Маракоў, вучань Янкі Купалы, дзядзька Леаніда Маракова.

Прэс-служба
ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў"



## МІНГАРВЫКАНКАМ ДАСЛАЎ АФІЦЫЙНЫ АДКАЗ НАКОНТ ПРАЦІЎНІКАЎ "ДОШКІ БНР"

Намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Юркевіч адказаў на зварот журналіста Севярына Квяткоўскага наконт "дошкі БНР" – мемарыяльнай шыльды для дома, дзе 100 гадоў таму абвясцілі незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі. Нягледзячы на шэраг абяцанняў, дошку не вешаюць ужо 25 гадоў.

Апошні да таго афіцыйны адказ быў такі: Ігар Юркевіч пісаў, што павесіць дошку перашкаджае "шэраг зваротаў ад грамадзян", а "пытанне аб мэтазгоднасці прыняцця рашэння па ўстаноўцы на разглядзе".

Севярын Квяткоўскі папрасіў удакладніць, што за "шэраг зваротаў", колькі іх было і ад каго. Юркевіч адмовіў – спаслаўся на артыкул 28 Канстытуцыі Беларусі, паводле якога "кожны мае права на абарону ад незаконнага ўмяшання ў ягонае асабістае жыццё, у тым ліку ад замаху на тайну яго карэспандэнцыі, тэлефонных і іншых паведамленняў, на яго гонар і годнасць".

Пытанне па-ранейшаму "на разглядзе" з прычыны "зваротаў грамадзян з неадназначным стаўленнем", атрыманыя ў невядомай колькасці. Тым часам петыцыя за тое, каб дошку нарэшце павесілі, сабрала больш за 3300 подпісаў.

На "звароты грамадзян" спасылаліся таксама ў адказе на петыцыю аб перайменаванні станцыі мінскага метро "Плошча Леніна", што пад плошчай Незалежнасці, у адпаведнасці з назвай апошняй.

Ад уладаў дабіліся адказу: было 40 лістоў наконт перайменавання, 31 ліст быў з адмоўным стаўленнем да прапановы (апублікаванай у 2010 годзе ў дзяржаўных газетах "Вечерний Минск" і "Минский курьер", а пасля ў незалежных СМІ). Звароты на Petitions.by за перайменаванне ў 2018 годзе падпісалі 155 чалавек першую і 571 чалавек другую. Станцыю не перайменавалі.

### Што важна ведаць пра "дошку БНР"

- 1 сакавіка кіраўніцтва Мінгарвыканкама дазволіла ўсталяваць мемарыяльную дошку на вуліцы Валадарскага, 9. Менавіта тут 25 сакавіка 1918 годзе была абвешчаная незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі.
- Шыльду зрабілі з бронзы на ўзор папярэдняй, якую скульптар Алесь Шатэрнік адліў з сплаву алюмінію і крэмнію яшчэ ў 1993 годзе. Надпіс на новай дошцы зроблены афіцыйным правапісам; такое было патрабаванне ўладаў.
- Грошы на новую шыльду сабралі талакой усяго за тры гадзіны.
- Дошку планавалі ўсталяваць напярэдадні 23 сакавіка, але не ўсталявалі і цягам наступных 5 месяцаў.
- 941 подпіс сабрала летась петыцыя за ўсталяванне памятных знакаў на будынках, звязаных з гісторыяй БНР.

"Радыё Свабода"

## РЭЖЫСЁР ЗМІЦЕР БЕЙНАРТ-САЛАДУХА Ў РЭАНІМАЦЫІ: У ЯГО БЫЎ ІНСУЛЬТ

20 кастрычніка ў сябра Рады "Бацькаўшчыны", вядомага рэжысёра і культурнага дзеяча Змітра Бейнарта-Саладухі здарыўся інсульт. Яму зрабілі аперацыю, выдалілі тромб, паведаміла ў сваім фэйсбуку Таццяна Гацура. Пасля правялі другую аперацыю па дэкампрэсіі мозга. Зараз ён у цяжкім, але стабільным стане.

Паводле "Новага Часу"



## У МІНСКУ ПРАПАНАВАЛІ ЎСТАЛЯВАЦЬ ПОМНІК БЕЛАРУСАМ-ПРАВЕДНІКАМ

З прапановай адкрыць у Мінску манумент, прысвечаны беларусам, якія дапамагалі габрэям падчас Другой сусветнай вайны, 22 кастрычніка выступіў Сэм Клігер – начальнік аддзела ў справах Беларусі, Расіі і Украіны Амерыканскага габрэйскага камітэта ЗША.

Сваю ініцыятыву ён агучыў падчас круглага стала "Трагедыя Мінскага гета: памяць і ўрокі", які праходзіў 22 кастрычніка ў Міністэрстве замежных спраў Беларусі: "Такі манумент выконваў бы адразу дзве задачы. Па-першае, ён бы сведчыў пра тое, як шмат габрэяў нацысты знішчылі ў Беларусі. Па-другое, ён бы нагадваў пра герояў-беларусаў, якія ахвяравалі сваім жыццём дзеля таго, каб ратаваць габрэяў".

Архітэктарка Галіна Левіна, якая ўдзельнічала у круглым стале, сказала "Свабодзе", што яе бацька Леанід Левін яшчэ ў 2013 годзе зрабіў эскіз такога помніка: "Дагэтуль яго можна пабачыць у мінскай Гістарычнай майстэрні. Але тады ўзнікалі фінансавыя праблемы. Пасля бацька памёр, і справа заглухла".

Журналіст Барыс Герстэн, які таксама быў на мерапрыемстве, удакладніў для "Свабоды", што помнік беларусам-праведнікам існуе ў Буэнас-Айрэсе: "У сталіцы Аргенціны адкрытая алея праведнікаў свету. На ёй усталяваны помнік. І там згадваюцца ўсе краіны, жыхары якіх дапамагалі габрэям падчас Другой сусветнай вайны. Я гэта бачыў на ўласныя вочы. І на помніку згадваецца, сярод іншых, і Беларусь".

Уладзімер Глод,
"Радыё Свабода"



навіны "Будзьма беларусамі!"

# СУСТРАКАЕМСЯ З СЯБРАМІ!

Восень радуе нас цудоўнымі сонечнымі днямі. А грамадская культурніцкая кампанія "Будзьма беларусамі!" і грамадскае аб'яднанне "Саюз беларускіх пісьменнікаў" радуе сваіх сяброў новымі творчымі сустрэчамі.

Так, 16 кастрычніка ў Смалявіцкім раённым аддзеле адукацыі на настаўніцкім семінары, прысвечаным адораным і таленавітым дзецям, выступілі паэтэсы Людміла Паўлікава-Хейдарава і Валянціна Осіпава. Гэта была незвычайная сустрэча. Нашы творцы не толькі распавядалі пра сябе, свой творчы і жыццёвы шлях і іх пераплячэнне. Але і рэфлексавалі: што дапамагло раскрыцца іх таленту, якія рэакцыі людзей, што навокал, натхнялі, рухалі наперад, а якія – наадварот, заміналі, абражалі, прымушалі "складаць творчыя крылы"... У актыўным дыялогу з настаўнікамі спадарыні Валянціна і Людміла абмяркоўвалі стратэгіі паводзінаў настаўніка з адоранымі дзецьмі, вынаходзілі метады супрацы з імі. Выступоўцы адзначаюць, што "пры такой зацікаўленасці аўдыторыі дзве гадзіны праляцелі, што 20 хвілін. Прыемна было, што многія з настаўнікаў выказаліся пра высокі духоўны ўздым ад сустрэчы".

Акрамя плённага дыялогу Людміла і Валянціна разам з настаўнікамі паўдзельнічалі ў практыкуме доктара педагагічных навук Надзеі Джыга, якая і запрасіла паэтэс да ўдзелу ў семінары. Практыка разняволення, адкрытасці, уважлівасці да таго, што адбываецца побач, да ўспрымання чалавека, разумення яго і раскрыцця яго лепшых рысаў – гэта школа будучыні. Дзе веды – гэта радасць, а цікаўнасць і ўвага да выяў і праяў жыцця, да другога чалавека ёсць аснова педагагічнай дзейнасці.

Таксама 16 кастрычніка ў бібліятэцы № 1 Мінска адбылася сустрэча з музыкам Ярашам Малішэўскім і пісьменніцай Аксанай Спрынчан. Творчая сям'я прэзентавала свае кнігі для дарослых і дзяцей, у неардынарнай форме шмат распавяла пра беларускую культуру, літаратуру, гісторыю і музыку. Удзельнікі сустрэчы нечакана для сябе апынуліся ў чароўным свеце беларускай літаратуры і сакральнай музыкі: з захапленнем слухалі вершы, былі ўражаныя і купалаўскай жалейкай, і саламяным пішчыкам, і лернікам, у якога пераўвасобіўся Яраш Малішэўскі. А тыя, хто не толькі слухаў, але і змог правільна адказаць на пытанні гасцей, атрымалі падарункі ад "Будзьма беларусамі!" і "Саюза беларускіх пісьменнікаў".

17 кастрычніка адбылася цудоўная сустрэча ў Мікашэвічах. Для мясцовай гімназіі гэта дата – Дзень памяці Уладзіслава Нядзведскага, паэта, чыё імя з годнасцю носіць навучальная ўстанова. Па добрай традыцыі ў гэты дзень гімназія запрашае паўдзельнічаць у святе беларускіх літаратараў. Сёлета гэта былі сябры "Саюза беларускіх пісьменнікаў": Васіль Жуковіч, Алесь Камоцкі і Георгій Ліхтаровіч. Спачатку госці пасобку правялі сустрэчы з гімназістамі.

Васілю Жуковічу, як самаму старэйшаму з прысутных прадстаўнікоў цэха прыгожага пісьменства, дасталіся самыя малодшыя вучні. І не дзіўна, бо ў Васіля Аляксеевіча, творы якога можна знайсці і ў школьных падручніках, ёсць адмысловы талент пісаць для дзяцей. Пра гэта, падчас сустрэчы, пераканаўча сведчылі і ўважлівая цікавасць, і вясёлыя ўсмешкі маленькіх слухачоў.

Славуты бард Алесь Камоцкі сустракаўся са старэйшымі гімназістамі. Яго аўтарскія рамансы і песні, а таксама творы на вершы Рыгора Барадуліна не маглі не закрануць сэрцы юнакоў і дзяўчат. А дасціпная і жартаўлівая самаіронія, з якой Алесь звычайна размаўляе са слухачамі і адказвае на іх пытанні, стварылі ўтульную, хатнюю атмасферу.

Пяты клас дастаўся Георгію Ліхтаровічу. Памятаючы, што для дзяцей трэба пісаць, як для дарослых, толькі лепш, ён прачытаў некалькі сваіх чатырохрадкоўяў – "ліхтарыкаў". Гэта выклікала ў прысутных не толькі ўсмешкі, але і пытанні. Прыйшлося патлумачыць тое-сёе і пра "Саюз беларускіх пісьменнікаў", і пра свой шлях у літаратуру. Напрыканцы прагучала некалькі санетаў, дзе без пытанняў таксама не абышлося. Самыя актыўныя вучні атрымалі, у якасці ўзнагароды, падарункі ад грамадскай культурніцкай кампаніі "Будзьма беларусамі!". Госця прыемна здзівіла чарга ахвочых атрымаць аўтограф...

Пасля ў актавай зале гімназіі адбылася вечарына, прысвечаная памяці Уладзіслава Нядзведскага. Гімназісты чыталі яго вершы, спявалі песні. Прысутнічалі каля сотні старшакласнікаў і большасць выкладчыкаў. Па даўняй завядзёнцы ў гэты дзень дыпломамі і граматамі адзначаліся лепшыя навучэнцы. На гэты раз яны атрымалі свае ўзнагароды з рук сталічных гасцей.

Васіль Жуковіч, які асабіста ведаў Уладзіслава Нядзведскага, падзяліўся з прысутнымі ўспамінамі і прачытаў некалькі сваіх вершаў...

Алесь Камоцкі паспрабаваў пасля выканання адной песні сысці са сцэны, але грамада бурнымі воплескамі не адпусціла барда...

Некалькі сваіх радкоў пра ролю і лёс паэтаў прачытаў Георгій Ліхтаровіч...

19 кастрычніка ў мінскай дзіцячай бібліятэцы № 1 адбылася сустрэча школьнікаў малодшых класаў з пісьменнікам, паэтам, перакладчыкам, літаратуразнаўцам і бардам Сержам Мінскевічам. Разам з госцем хлопцы і дзяўчаты выправіліся ў вясёлае падарожжа па сусветным акіяне. Яны сустрэлі розных марскіх жывёл, пра якія апавядалася ў вершах і песнях выступоўца. Таксама юныя "турысты" адказвалі па-беларуску на пытанні пра марскую фаўну нашай планеты. У аўдыторыі была шумная, але вясёлая атмасфера. Напрыканцы выступоўца ўжо ў сваю чаргу шчыра адказаў на шматлікі пытанні: калі вы напісалі першую кнігу? дзе вы жывяце? ці вы жанатыя? ці вы багатыя? цяжка пісаць кнігі, песні, вершы? На памяць пра сустрэчу Серж уручыў вучням беларускамоўныя паштоўкі.

**Болей чытайце на сайце budzma.by**

# ВІКТАР МАРЦІНОВІЧ З АНШЛАГАМ ПРЭЗЕНТАВАЎ РАМАН "НОЧ"

Імпрэза, арганізаваная кампаніяй "Будзьма беларусамі!", адбылася 2 лістапада ў "Falcon Club Буцік Кіно". Падчас аўтограф-сесіі ў сталічнай кнігарні "Акадэмкніга", якая прайшла амаль за месяц да прэзентацыі, 12 кастрычніка, людзі па паўтары гадзіны стаялі на вуліцы ў чарзе, каб набыць раман "Ноч".

На чатырох сотнях старонак фантастычнага свету рамана пануе вечная ноч, вечны лістапад, вечнае "каляналя", а замест грошай – батарэйкі.

Гэта кніга, выдадзеная пры дапамозе кампаніі "Будзьма беларусамі!", пра адчуванне неспакою, небяспекі і няўтульнасці, яна пра фэйкавыя навіны і "зямны блін", але найперш гэта кніга пра Героя, які праходзіць праз нечалавечыя выпрабаванні і імкнецца пры гэтым застацца Чалавекам.

"Ноч" зусім нядаўна пабачыла свет, але ўжо займела шырокі рэзананс: сотні чытачоў на аўтограф-сесіі, супярэчлівыя рэцэнзіі ад крытыкаў, бурнае абмеркаванне твора ў сацыяльных сетках.

**Паводле "Будзьма беларусамі!"**



мастацтва

# Лёнік Тарасэвіч: толькі прымітыўныя людзі думаюць, што калі спаляць кніжку, то знішчаць напісанае

16 кастрычніка ў галерэі сучаснага мастацтва "Ў" адкрылася маштабная выстава-даследаванне гісторыі сучаснага мастацтва Беларусі "ZBOR In Progress". 40 твораў, адабраных паводле апытання 35 спецыялістаў, рэпрэзентуюць найбольш важныя тэндэнцыі сучаснага беларускага мастацтва за апошнія 30 гадоў. Такая выстава не магла абысціся без прац сусветна вядомага беларускага мастака з Падляшша Лявона Тарасэвіча. Спадар Лёнік хаця і рэдкі госць у Беларусі, гэтым разам не толькі ўзяў удзел у адкрыцці, але таксама знайшоў хвіліну, каб падзяліцца з "Бацькаўшчынай" уражаннямі ад свайго прыезду.



Fundacja Villa Sokratis

## Дваццаць пяць гадоў не выстаўляўся ў Мінску

Апошні раз у Мінску выстаўляўся ў 93-м годзе – трохі прайшло гадоў. Але тады ўсё было зусім па-іншаму. Мы ладзілі выставу ў Палацы мастацтваў, а "ўраднікі" рабілі, каб яна не атрымалася. Сёння ж наадварот – усё робяць, каб была выстава. Галерэя "Ў" – цудоўнае месца. Калі яны працягнуць трымаць такі ўзровень, то будуць востравам сучаснага мастацтва ў Беларусі, з якім можна мець кантакты і працаваць. Я цешуся, што нарэшце бачу беларускае мастацтва, прадстаўленае на такім сучасным узроўні.

## Палотнішча стварыў проста ў галерэі

Мы так мытнікаў перахітрылі: перавезлі фарбы, зрабілі падрамнік – і ў чацвер я працаваў, рабіў во гэтую работу *(смяецца)*. Трэба праблемы абмінаць, а не плакацца, што яны ёсць.

## Пра беларускасць

Мне ўжо абрыдла ад гэтай "Беларусі" *(смяецца)*. Бо цэлы час пішуць "беларус", "звязаны з беларускай культурай на Беласточчыне"... Што, калі б пра кожнага пісалі: "паляк", "звязаны з польскай культурай"?.. Ну мастак – і ёсць мастак, беларус – дык і ёсць беларус. Заўсёды ж у тэкстах пішуць пра кожнага мастака, з якога ён карэння вырастаў.

## Пра бязвізавы рэжым

Трыццаць дзён можна быць без візы! Мне аж не верыцца. Добра, калі дзяржаве будзе карысць з таго, што людзі прыязджаюць. Нам цікава паглядзець гістарычныя месцы, паездзіць... Проста бярэш, купляеш білет, ляціш і вяртаешся. Пераходзіш граніцу нармальна, і ніякіх табе "фашыстаў" няма, ніхто не кідаецца да цябе з сабакам. Гатэль 35 еўра на ноч – таксама нармальны свет. Можна будзе прылятаць цяпер часцей. А раней то найбольшай праблемай была граніца: гэтыя ў шапках, на трасянцы, усё прыніжальнае. "Што маеце везці, што можаце вывезці"... Пытаюцца пра нейкае золата, пра сала... У Еўропе цяпер няма ніякіх праблем, перавозь што хочаш. Ну пра што мытнік можа спытаць, калі маю карціну пабачыць?! *(смяецца)*

## Пра Лявона Вольскага

З Лёнем Вольскім спатыкаліся. Абгаворвалі наступны "Трыялёг". Думаем паказаць там Беларусь. Не такую, як палякі хацелі б бачыць, не такую, як мы хацелі б бачыць, а рэалістычную. Такую, якая яна ёсць насамрэч.

## Трэба ўвесь час штосьці рабіць

Чым я толькі ні займаюся, і кветкамі займаюся таксама. Мае вяргіні – першае, пра што ў Крынках кожны пытаецца. "Хто імі займаецца? То ж гэта трэба пасадзіць!" Ну так, кажу, трэба пасадзіць. "А трэба ж даглядаць!" Ну так, кажу, трэба даглядаць. Але трэба ж і ногі мыць штодзень. Усё трэба, калі чаго хочаш. Яшчэ пародзістых курэй гадую: тры гады таму стаў прызёрам на міжнароднай выставе ў Мецы ў Францыі. Трэба ўвесь час штось рабіць.

## Пра палітыку ў мастацтве

Людзі ўжо не гавораць пра палітыку беспасрэдна, але палітычная тэма ў мастацтве ёсць заўсёды. І на гэтай выставе таксама вельмі моцна відаць палітыку, вельмі моцна відаць пратэст да рэчаіснасці. Мастацтва заўсёды так развівалася, у кожнай краіне. А што да жывапісу з рознымі кветачкамі, васілёчкамі... *(махае рукой)*

## Думкі не затопчаш

Чуў, што размаляваныя мной калоны ў Віцебскім музеі зафарбавалі. Калі туды прыеду, зноў размалюю *(смяецца)*. Толькі прымітыўныя людзі думаюць, што калі спаляць кніжку, то знішчаць напісанае. Думкі не затопчаш.

## Пра Беларусь

Калі б тут улады былі хітрэйшыя ды дазволілі рынку ўвайсці ў краіну і даць працу людзям, калі б сюды маглі нармальна прыязджаць і працаваць фірмы, тады Беларусь магла б хутчэй ісці дагары. Можаце мне не верыць, але Беларусь можа яшчэ хутчэй, чым Польшча, развівацца.

Гутарыў Сяргей Кандраценка,
прэс-сакратар
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

мастацтва

# Андрэй Дурэйка: МАСТАК ПАВІНЕН ЗДРАДЗІЦЬ СВАЙМУ НАСТАЎНІКУ

На адкрыцці выставы “ZBOR In Progress” Андрэй Дурэйка, адзін з яе куратараў, падзяліўся з “Бацькаўшчынай” думкамі пра месца нацыянальнага ў сучасным беларускім мастацтве.



## Страшэнная канкурэнцыя

Мастакі ўсюды запатрабаваныя. Беларускія таксама. Проста ў Еўропе страшэнная канкурэнцыя, ёсць вядомыя людзі, якія маюць вялікі ўплыў, фінансавы рэзерв. У параўнанні з імі беларускае мастацтва не ў найлепшай сітуацыі. Але ёсць шмат беларускіх мастакоў, якімі мы можам ганарыцца, якія адваявалі сабе прастору і прадстаўленыя ў еўрапейскіх музеях: Віка Мітрычэнка, Аляксей Кашкараў, Эвеліна Домніч. Калі глядзець шырэй і браць такіх прадстаўнікоў беларускага мастацтва, як Лявон Тарасэвіч – дык наогул не паўстае ніякіх пытанняў.

## Мастак і нацыянальнасць

Мастацтва – тэрыторыя інтэрнацыянальная, і ў шырокім сэнсе пытанне нацыянальнасці другаснае, але таксама вельмі важнае. Для кожнага канкрэтнага мастака – нават прынцыповае. Калі мастак малады, толькі паўстае, то для яго гэта рэч падстаговая. Калі мастак яго для сябе не вырашае, то пазней яно абавязкова праявіцца ў творчасці, у выглядзе комплексаў, амаль што фрэйдысцкіх.

## Мастак павінен здрадзіць

У асяроддзі сучасных беларускіх мастакоў існуюць прыкметы нацыянальных мастацкіх школ, але, як кажуць кітайцы, кожны сапраўдны мастак павінен здрадзіць свайму настаўніку. І найрадыкальнейшыя з мастакоў, самыя выбітныя – не падобныя да сваіх настаўнікаў, яны ствараюць свае стылі і плыні. Але можна казаць, да прыкладу, пра пераемнасць такога кшталту: я вучыўся ў Ігара Цішына, у Наталлі Залознай, а нядаўна атрымаў на свой адрас кампліменты ад мастакоў, якія лічаць, што ўжо я ім дапамог – ад Захара Кудзіна, Уладзіміра Пазняка.

## Дзяржава павінна зразумець

Вялікая праблема, што сучаснага мастацтва няма ў беларускіх акадэміях і школах. Пры тым што сёння мы маем магчымасць, якой, можа, ніколі не было за сто апошніх гадоў, – цэлую плынь мастакоў, якія скончылі школы на Захадзе, і якія могуць сёння прадстаўляць беларускае мастацтва на належным узроўні. На жаль, дзяржаўныя інстытуцыі з імі не кантактуюць. Думаю, што дзяржава зразумее сітуацыю, калі ёй яе дакладна паказаць, наверсе ж не сядзяць дурні.

**Гутарыў Сяргей Кандраценка, прэс-сакратар МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

навіны

# БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ САБРАЛА Ў ВІСАГІНАСЕ АНСАМБЛІ ЛІТВЫ, ЛАТВІІ І БЕЛАРУСІ




6 кастрычніка ў Вісагінасе (Літва) прайшло 22-е Свята беларускай песні, якое сабрала вакальныя калектывы беларускіх таварыстваў Літвы, а таксама гасцей з Латвіі і Беларусі. У ліку іх у фестывалі самы актыўны ўдзел узяла дэлегацыя беларусаў з Даўгаўпілса.

Аб’яднанне беларускіх грамадскіх арганізацый Літвы штогод арганізуе Свята беларускай песні, кожны раз мяняючы горад правядзення песеннага форуму. У гэтым годзе фестываль прымаў Вісагінас, і гэта невыпадкова, паколькі мясцовы ансамбль “Світанак” святкаваў свой 20-гадовы юбілей.

Свята беларускай песні пачалося з адкрыцця перасовачнай выставы “Жыццё ў Слове” з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і прадоўжыўся канцэртам, на якім выдатна выступілі калектывы і салісты з многіх беларускіх таварыстваў Літвы, а таксама ансамбль беларускай народнай песні “Церніца” з Беларусі.

У рамках падпісанай дамовы паміж Даўгаўпілскім ЦБК і беларускім культурным цэнтрам “Крок” г. Вісагінаса ў Святе беларускай песні выдатна выступілі наш ансамбль народнай песні “Купалінка” (мастацкі кіраўнік Вячаслаў Пятроў) і член Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэт Станіслаў Валодзька.

Ключавую ролю Свята беларускай песні ў захаванні культурнай спадчыны беларусаў у Літве адзначыў у сваім выступленні Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Аляксандр Кароль. Мэр Вісагінаса Даля Штраўпайтэ вельмі высока ацаніла ўклад беларусаў горада ў справе папулярызацыі беларускай культуры і захаванні сваіх традыцый, іх важную ролю ў фарміраванні высокага іміджу горада на міжнародным узроўні.

Кіраўніца Даўгаўпілскага Цэнтра беларускай культуры Жанна Раманоўская падкрэсліла аб’яднаўчую ролю песні ва ўмацаванні сувязяў паміж людзьмі, арганізацыямі, гарадамі і краінамі, павіншаваўшы партнёраў – Беларускі культурны цэнтр “Крок”, ансамбль “Світанак” і Аб’яднанне грамадскіх беларускіх арганізацый Літвы.

Дзве гадзіны канцэрта праляцелі на адным дыханні. Гледачы не скупіліся на шчодрыя апладысменты. Да новых сустрэч на наступных святах беларускай песні, якая напоўнена любоўю, дабрынёй, шчодрасцю і шчырасцю беларускай душы!

**Марыя Памецька, метадыст Цэнтра Беларускай Культуры (Даўгаўпілс, Латвія)**

гутарка

# БЕЛАРУСЫ Ў КАНАДЗЕ: ЖЫЦЦЁ З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ У СЭРЦЫ

Актывіст Згуртавання беларусаў Канады Алесь Кот даў вялікае інтэрв'ю пружанскай раённай газеце "Раённыя будні".




Сяргея Талашкевіч

**– Дык чаму з'ехалі, спадар Аляксандр? Не было даху над галавой, хлеба на стале? Ці нешта іншае?**

– Пытанне не ў брыво, а ў вока. Неаднойчы даводзілася чуць ад іншых: "Таксама ўцёк бы куды вочы глядзяць, абы толькі змяніць нешта ў жыцці". У нашым выпадку ўсё было крыху інакш. Пасля сканчэння БДУ я амаль усё жыццё працаваў на прадпрыемстве "Інтэграл" – на той час, напэўна, самым высокатэхналагічным у Беларусі. Узяў шлюб з добрай дзяўчынай, нарадзілі дзяцей, абжыліся. Усё быццам бы добра. Але, працуючы кіраўніком дэпартамента новай тэхнікі, яшчэ ў пачатку 90-х стаў падазраваць, што ў гіганта савецкай электроннай прамысловасці, які дастаўся Беларусі ў спадчыну ад былога СССР, наперадзе ніякіх перспектыў. На рынках постсавецкай прасторы з'явілася аналагічная нашай прадукцыя "азіяцкіх тыграў" (Паўднёвай Карэі, Сінгапура, Ганконга, Тайваня). Тая прадукцыя была ў сучасным дызайне і значна таннейшая за нашу. Гэтая акалічнасць наганяла сум і думкі: "А што ж далей?" Каб быў год на дзесяць старэйшы, то, безумоўна, нікуды не імкнуўся б. Але ў той час мне было толькі 42. Адчуваў пэўны асабісты патэнцыял. І разумеў, што трэба нешта рабіць, бо не рабіць нічога – найгоршы варыянт.

**– Фактычна Вы здзейснілі "экскурсію" на другі бок зямлі. Як хутка прыспела рашэнне спыніцца на заходнім вектары? Чаму менавіта Таронта?**

– Тое, што раскажу, будзе выглядаць, як байка, але ж... Неяк аднойчы вярнуўся з працы дахаты. Настрой ніякі. Разгарнуў "Беларускую дзелавую газету", прабег вачыма па дыяганалі і... спыніў позірк на адной інфармацыі. На чорным фоне белымі літарамі было надрукавана: "Эміграцыя ў Канаду". Дагэтуль нават і думкі не было, што Канада – месца, куды магчыма было паехаць. Гэтая краіна ўспрымалася як таямнічы міраж. Патэлефанаваў. Прадстаўнік эміграцыйнага агенцтва размаўляў са мной цэлых 45 хвілін і, прызнацца, моцна зацікавіў. Пасля размовы вагаўся ажно год. Сітуацыя на прадпрыемстве яшчэ пагоршылася. І ўвосень 1996 года прыняў канчатковае рашэнне.

**– Вы і зараз пацвярджаеце, што пачынаць новае жыццё ў 43 гады яшчэ не позна?**

– Абсалютна так. На маё рашэнне паўплывала і тое, што за 28 гадоў жыцця ў сталіцы шмат у якіх аспектах пераўтварыўся ў касмапаліта. І, безумоўна, прыкладам сталі сваякі, што паехалі ў Новы Свет з надзеяй пачаць новае жыццё. У іх гэта атрымалася. А мы што, горшыя?

**– А як жа бацькі? Напэўна, цяжка было з імі расставацца?**

– Нават зараз цяжка згадваць момант расставання. Тады як быццам унутры нешта абарвалася. У той красавіцкі дзень 1998 года мы ўсе прыехалі ў Жадзены. У роднай хаце сабралася ўся наша сям'я... Калі пакідалі вёску, матуля, плачучы, перахрысціла нас на дарогу. Тата мужна трымаўся. Ніхто не ведаў, што нас чакае: усё заўсёды гладка толькі на паперы, а ў жыцці – у кожнага свой лёс. Але мы з жонкай спадзяваліся не толькі на тое, што знойдзем сабе справу і ўтрымаемся самі, але і створым трывалы падмурак для будучыні дзяцей.

**– У нас часта кажуць, што добра там, дзе нас няма. Ці пацвярджае гэта Ваш асабісты вопыт?**

– Скажу так: "Добра там, дзе добра". Відавочна, акрамя нас, у свой час так палічылі мільёны англічан, французаў, ірландцаў, немцаў, украінцаў, прадстаўнікоў іншых народаў, якія пераехалі жыць у Канаду. Сярод эмігрантаў Канады пачэснае месца займаюць таксама і беларусы, што на працягу стагоддзяў на роўных з іншымі будавалі Новы Свет.

**– А як Канада прыняла беларуса?**

– Мы ведалі, што ў Канадзе ніхто не будзе спецыяльна пад нас падладжвацца. Там нікога не хвалявала, хто мы такія і што нам патрэбна. Мы – гэта я, жонка і двое нашых дзяцей 18 і 16 гадоў. Займеўшы напачатку грошы на бягучыя выдаткі, пачалі рыхтавацца да ўладкавання па-сур'ёзнаму. Адразу зазначу, што мой "інтэгралаўскі" досвед аказаўся недастатковым. Патрэбна было пацвердзіць дыплом альбо перакваліфікавацца. Усё гэта патрабавала шмат часу. А на якія сродкі жыць? Прааналізаваўшы розныя варыянты, я пайшоў працаваць кіроўцам. З цягам часу набыў свой аўтамабіль і з той пары перавожу грузы з Канады ў ЗША і наадварот. Як бачыце, электроніка і высокія тэхналогіі засталіся ў мінулым...

Дачка працуе менеджарам у адной з кампаній, сын заняты ў IT-сферы. Так з цягам часу ўсё ўладкавалася. Атрымалі крэдыт, дастатковы для будаўніцтва дома, пабудаваліся, у тым доме жывём і зараз.

**– Падаецца, што нічога з неба ні ў Амерыцы, ні ў Еўропе не падае.**

– Так і ёсць. Кожны цэнт трэба зарабіць. Хто не варушыцца, не напружваецца, той і жыве ў абы-якой арандаванай кватэры і скардзіцца на дзяржаву Канаду, што не дае прэферэнцый. Менавіта тут, у Новым Свеце, зразумеў вядомае выказванне: "Грошы даюць значна больш свабоды". Без грошай чалавек шмат у чым абмежаваны. Без іх і на Бацькаўшчыну не прыедзеш, каб пабачыцца з роднымі, не адпачнеш па-сапраўднаму, нават добрую кнігу не дазволіш сабе набыць.

**– А каго Вы наведваеце, калі прыязджаеце ў Беларусь? Хто застаўся тут з родных?**

– На жаль, ужо пяць год, як няма нашага таты. У Беларусі засталіся двое братоў і матуля, якой 1 студзеня споўніцца 90 гадоў. Якое шчасце, што ёсць да каго ехаць у Беларусь. "Напампоўваюся" родным паветрам, а праз год ізноў вяртаюся да жадзенскіх вязаў набрацца энергіі, павітацца на могілках з татам, дакрануцца да роднай хаты. Тое, што губляем, павышаецца ў кошце неймаверна... І так разрываюся паміж чужынай і Бацькаўшчынай.

**– Пасля такога прызнання і пытанні знікаюць... Давайце, спадар Аляксандр, вернемся ў Канаду. Вы шмат сяброў там маеце?**

– Мае сябры – гэта члены Згуртавання беларусаў Канады, якое ў год нашага прыезду адзначала сваё 50-годдзе. Менавіта яны дапамаглі прызвычаіцца да канадскай рэчаіснасці. Памятаю, калі мы першы раз сустрэліся з імі ў Таронта, усе яны, як адзін, размаўлялі па-беларуску. Тады гэта вельмі

ўразіла, было нязвыклым. Але з цягам часу і мы пачалі размаўляць на роднай мове. Мы не вучылі мову з нуля, а выцягвалі моўныя веды са сваіх падсвядомых запасаў. Родная мова – першае, чаму навучыла мяне матуля. І натуральна, што да школы іншай мовы я і не ведаў. У дадатак да гэтага добрыя ўсходы далі і тыя рэдкія гадзіны беларускай мовы і літаратуры, што выкладаліся ў школе. “Канадскія” беларусы па-добраму з нас пасмейваліся: “Размаўляйце і навучыцеся. Асіліць шлях той, хто ідзе”. Так і выйшла: адолелі і англійскую, і, тым больш, родную беларускую мову. На ёй і размаўляем паміж сабой.

**– Акрамя мовы, якімі яшчэ скарбамі падзялілася з Вамі Згуртаванне беларусаў Канады? Наколькі я ведаю, у лістападзе беларуская суполка будзе адзначаць свой юбілей.**

– Так, хутка мы будзем адзначаць 70-годдзе суполкі і ўшануем беларусаў, якія заклалі падмурак таго грамадскага жыцця, у якім сёння прымаюць удзел беларусы ў Канадзе. Мне пашчасціла застацца на чужыне беларусам. Мы ў Канадзе моцна трымаемся за нашу культурную і моўную спадчыну. Адзін з дыяментаў грамадскай дзейнасці канадскіх беларусаў – музычны гурт “Яваровы людзі”, кіраўніком якога з‘яўляецца Віялета Кавалёва.

За 16 гадоў праз гэтую школу культурнага выхавання прайшло больш за сто чалавек (сам гурт складаецца з 8-12 чалавек). Якасць і спеўнасць хору настолькі высокая, што ён можа смела ехаць з гастролямі ў Еўропу і, у прыватнасці, у Беларусь. Наш хор запрашаюць на ўсе Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі, што адбываюцца кожныя два гады ў розных гарадах Канады альбо ЗША. Пасляваеш на сваёй мове альбо паслухаеш іншых – лягчэй на душы! Гэта тое, што нам трэба на чужыне... У Канадзе добра ведаюць пра нашу суполку.

Калі ў мінулым годзе мы прымалі ўдзел у Парадзе нацый, прымеркаваным да 150-годдзя Канады, наша беларуская калона з 90 чалавек вылучалася сярод іншых. Змайстраваны 11-метровы бусел – сімвал Беларусі – ледзь змяшчаўся на вуліцах Таронта.

**– Дарэчы, падзяліцеся ўражаннямі ад убачанага ў Беларусі.**

– Я не магу без Беларусі, таму штогод прыязджаю сюды. І кожны раз бачу змены. Пружаны – прыгожы і ўтульны гарадок з пэўнымі рысамі еўрапейскасці. Цешуся, што на вуліцах нашых гарадоў дзе-ніздзе ўсё ж чуваць родную мову. Вельмі спадзяюся, што ўсё ж беларуская мова запануе ў краіне гэтак жа, як шведская – у Швецыі, польская – у Польшчы... Хацелася б, каб жыхары родных Пружан таксама не забываліся пра сваіх знакамітых землякоў. Калі прыязджаў у горад, быў ля хаты на вул. Горка, з якой выйшлі вядомыя ў свеце беларускі Валянціна Пашкевіч і Раіса Жук-Грышкевіч. Яны ўжо пайшлі з жыцця. І адзінае, што мы сёння можам для іх зрабіць, – гэта ўшанаваць іх памяць, каб імёны гэтых жанчын былі ўвекавечаны на роднай зямлі, адкуль яны разам з іншымі пружанцамі былі прымусова вывезены на работы ў Германію. Лёс вадзіў іх па Еўропе і закінуў за акіян. Аднак яны і на чужыне засталіся беларускамі. Працавалі, а ўвесь вольны час выдаткавалі на грамадскія справы: пісалі беларускія кнігі, складалі беларускія падручнікі, слоўнікі, арганізоўвалі беларускія фэсты, святы. Жылі з Радзімай у сэрцы.

Алена Зялевіч, “Раённыя будні”




навіны

# У ФІНСКІМ ГОРАДЗЕ З’ЯВІЎСЯ МЕМАРЫЯЛЬНЫ ЗНАК ЯНКУ КУПАЛУ

Мемарыяльны знак беларускаму паэту Янку Купалу 2 кастрычніка ўрачыста адкрылі ў горадзе Іматра, што на паўднёвым усходзе Фінляндыі на мяжы з Расіяй, паведаміла амбасада Беларусі ў Фінляндыі. Пра гэта расказаў і мясцовыя СМІ, у прыватнасці гарадскі сайт Imatra.fi.

Янка Купала быў у Іматры ў 1910 годзе, пад уражаннем ад вадаспаду на рацэ Вуокса напісаў верш “Над Іматрай”, які быў апублікаваны ў “Нашай Ніве” і ўвайшоў у зборнік “Шляхам жыцця”. Восем гадоў таму, калі вершу споўнілася сто гадоў, яго пераклалі на фінскую мову.

У гонар верша і пастаўлены мемарыяльны знак. На ім на дзвюх мовах – фінскай і беларускай – расказваюць пра тое, дзе быў напісаны твор. Таксама прыведзены ўрывак з верша: “Свабодай сваёю і роднай Суомі сягнуць быццам хочуць да зор”.




Мэр Іматры Кай Раслака (зьлева) на адкрыцьці мэмарыяльнага знаку




Мемарыяльны знак стварыў беларускі скульптар Павал Вайніцкі з ініцыятывы беларускіх міністэрстваў культуры і замежных спраў пры падтрымцы гарадскога сходу Іматры. На цырымоніі адкрыцця прысутнічалі мэр Іматры Кай Рослака, дырэктарка беларускага літаратурнага музея Купалы Алена Ляшковіч у мэрыі правялі выставу з фонду музея) і іншыя прадстаўнікі Беларусі і беларускай дыяспары.

“Радыё Свабода”

навіны

## У ЛОНГ-ЛІСТ "ОСКАРА" АФІЦЫЙНА ЎКЛЮЧЫЛІ БЕЛАРУСКІ ФІЛЬМ "КРЫШТАЛЬ"

Стужка Дар'і Жук пра спробу з'ехаць з Беларусі прэтэндуе на "Найлепшы фільм на замежнай мове" паводле Амерыканскай кінаакадэміі.



Краіны-суседзі Беларусі таксама выставілі свае фільмы на "Оскара": Літва – дакументальны "Цудоўныя няўдачнікі: Іншая планета", Латвія – дакументальны "Працяг будзе", Польшча – рамантычную драму "Халодная вайна", Расія – ваенную драму "Сабібор", Украіна – ваенную трагікамедыю на падставе дакументальных матэрыялаў "Данбас".

"Оскараў" – прызы Амерыканскай кінаакадэміі – у 91-ы раз раздадуць 24 лютага наступнага года. Шорт-ліст – галоўных прэтэндэнтаў на прэмію – маюць назваць 22 студзеня.

Беларускі "оскараўскі" камітэт быў створаны ў 2018 годзе. "Крышталь" стаў першым за два дзясяткі гадоў беларускім фільмам, які вырашылі намінаваць на амерыканскую кінапрэмію.

На намінацыю ад Беларусі прэтэндаваў таксама фільм "Сабака руды" пра сабак-"камікадзэ" ў Другую сусветную вайну ад стваральнікаў кіно "Мы, браты".

Здымкі фільму "Крышталь" беларускай рэжысёркі Дар'і Жук адбываліся ў Беларусі, у вытворчасці фільма ўдзельнічалі кінакампаніі з Беларусі, ЗША, Германіі і Расіі. Летась стужка атрымала узнагароду ў секцыі Works in Progress на Талінскім міжнародным кінафестывалі.

Галоўная гераіня фільму "Крышталь" Эвеліна (Веля) жыве ў Мінску, але марыць з'ехаць у ЗША, каб працаваць дыджэем. Каб атрымаць візу, ёй даводзіцца паехаць у невялікае мястэчка і прасіць дапамогі ў сям'і Сцяпана, які нядаўна вярнуўся з войска і ў якога праз некалькі дзён мае адбыцца вяселле. У ланцужку падзей смешнае звязана з сумным і часам брутальным.

Фільм "Крышталь" атрымаў гран-пры кінафестывалю ў Алматы, гран-пры Адэскага міжнароднага кінафестывалю, а таксама галоўны прыз конкурсу "Капрадукцыя. Акно ў свет" расійскага кінафестывалю "Акно ў Еўропу", які праходзіў у Выбаргу.

Рэжысёрка Дар'я Жук нарадзілася ў Мінску, вучылася і жыве ў ЗША. Скончыла Гарвардскі і Калумбійскі ўніверсітэты, працавала на канале HBO, зняла некалькі кароткаметражных фільмаў. Адзін з іх, "Сапраўдная амерыканка", быў адзначаны дыпломам Мінскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад" у 2015 годзе.

Сярод кароткаметражных фільмаў Дар'і Жук – "Тое, што цябе не заб'е", "З'есці турыста", "Паветра ўнутры", тэлевізійны пілот сіткома "Філфак".

"Радыё Свабода"

in memoriam

## ПАМЁР ПІСЬМЕННІК І ЖУРНАЛІСТ УЛАДЗІСЛАЎ АХРОМЕНКА

9 лістапада 2018 г. не стала таленавітага беларускага пісьменніка, драматурга, кінасцэнарыста Уладзіслава Ахроменкі. 29 кастрычніка ў Беластоку ў яго здарыўся цяжкі інфаркт.



Уладзіслаў Ахроменка нарадзіўся 29 студзеня 1965 года ў Гомелі. Вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі (1984 – 1989, клас І. Цвятаевай).

Працаваў выкладчыкам музычнай школы ў Лоеве, карэспандэнтам часопіса "Крыніца", рэдактарам аддзела часопіса "Бярозка", адказным сакратаром і рэдактарам аддзела газеты "Культура". З 1993 года працаваў па дамовах з кнігавыдавецтвамі і кінакампаніямі. Апошнія гады жыў у Чарнігаве і Мінску, актыўна супрацоўнічаў з "Беларускім Радыё Рацыя".

Як пісьменнік працаваў у вострасюжэтных, запатрабаваных жанрах — дэтэктыў, трылер, альтэрнатыўная гісторыя. Разам з Максімам Клімковічам быў адным з пачынальнікаў у Беларусі жанру кінарамана.

Аўтар кніг прозы "Здані і пачвары Беларусі" (1994, у суаўтарстве з М. Клімковічам), "Янкі, альбо Астатні наезд на Літве" (кінараман, 2007, сааўт. з М. Клімковічам), "Праўдзівая гісторыя Кацапа, Хахла і Бульбаша" (2009, сааўт. з М. Клімковічам), "Тэорыя змовы" (2011), "Музы і свінні" (2014), п'есы "Русалка Камсамольскага возера" (2010, суаўт. з М. Клімковічам). Творы Уладзіслава Ахроменкі перакладаліся на ўкраінскую, чэшскую, расейскую і польскую мовы.

У яго засталіся жонка і трое дзяцей.

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" смуткуе і выказвае шчырыя спачуванні сваякам і сябрам спадара Уладзіслава Ахроменкі.

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

## Беларускі каляндар памятных дат на лістапад 2018 года

1 лістапада – 150 гадоў таму, у 1868-м, нарадзіўся Дзмітрый Даўгяла, гісторык.

1 лістапада – 85 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Вячаслаў Адамчык, пісьменнік.

1 лістапада – 75 гадоў таму, у 1943-м, забіты Адам Дасюкевіч, грамадскі дзеяч.

3 лістапада – 155 гадоў таму, у 1863-м, памёр Міхаіл Кулеша, мастак.

3 лістапада – 35 гадоў таму, у 1983-м, памёр Антон Мартас, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Аргенціне, Аўстраліі і ЗША.

4 лістапада – 25 гадоў таму, у 1983-м, памёр Раман Лецка, краязнавец.

7 лістапада – 70 гадоў таму, у 1948-м, загінуў Хведар Ільяшэвіч, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне.

8 лістапада – 160 гадоў таму, у 1858-м, нарадзіўся Тадэвуш Урублеўскі, грамадскі дзеяч.

8 лістапада – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Вацлаў Ластоўскі, палітычны дзеяч, гісторык, мовазнавец.

8 лістапада – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Міхась Явар, паэт.

8 лістапада – 15 гадоў таму, у 2003-м, памерла Вольга Бурнос, дзеяч эміграцыі ў Аўстраліі.

10 лістапада – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Рыгор Рак, кампазітар.

13 лістапада – 75 гадоў таму, у 1943-м, забіты Уладзіслаў Казлоўшчык (сапр. Казлоўскі), грамадскі дзеяч, паэт.

14 лістапада – 85 гадоў таму, у 1933-м, нарадзіўся Леанід Пракопчык, краязнавец.

14 лістапада – 40 гадоў таму, у 1978-м, памёр Уладзімір Клішэвіч, паэт, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

15 лістапада – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Францішак Чарняўскі, святар, дзеяч эміграцыі ў Францыі, Бельгіі і ЗША.

16 лістапада – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзілася Леаніла Чарняўская, пісьменніца.

17 лістапада – 125 гадоў таму, у 1893-м, нарадзіўся Кастусь Езавітаў, дзеяч нацыянальнага адраджэння.

18 лістапада – 135 гадоў таму, у 1883-м, нарадзіўся Язэп Лёсік, палітычны дзеяч, мовазнавец.

20 лістапада – 70 гадоў таму, у 1948-м, нарадзілася Яўгенія Янішчыц, паэтэса.

20 лістапада – 30 гадоў таму, у 1988-м, памёр Гаўрыла Гарэцкі, геолаг, географ, дзеяч нацыянальна-культурнага руху.

23 лістапада – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Мікола Красінскі, навуковы і рэлігійны дзеяч.

25 лістапада – 30 гадоў таму, у 1988-м, памерла Яўгенія Янішчыц, паэтэса.

25 лістапада – 15 гадоў таму, у 2003-м, памерла Людміла Махнюк (дзяв. Каліноўская), дзеяч культурнага руху ў эміграцыі ў ЗША.

27 лістапада – 115 гадоў таму, у 1903-м, нарадзіўся Піліп Пестрак, пісьменнік.

27 лістапада – Дзень Герояў.

27 лістапада – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Сымон Рак-Міхайлоўскі, палітычны дзеяч, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, публіцыст.

27 лістапада – 70 гадоў таму, у 1948-м, створана Згуртаванне Беларусаў Канады.

29 лістапада – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Браніслаў Тарашкевіч, палітычны дзеяч, мовазнавец.

29 лістапада – 80 гадоў таму, у 1938-м, расстраляна Палута Бадунова, дзеяч нацыянальнага руху.

**Беларусы ў свеце**
№ 10 (197), кастрычнік 2018

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандраценка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
www.zbsb.org
zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 200-70-27